*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 32 (131)* *25 - 31 жніўня 1995 г.* *Кошт 600 рублёў*



## ДА НАС ПРЫЕХАЎ БАГДАНКЕВІЧ

**Сёньня ў Горадні распачаў працу навукова-практычны семінар «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве: вопыт Усходняй Эўропы».**

Семінар праводзіцца Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў з Менску. На яго запрошаныя прадстаўнікі ўлады, навукоўцы, сьпецыялісты, лідары палітычных арганізацый і грамадзкіх рухаў. З дакладамі выступяць кандыдат філасофскіх навук Альгірдас Дзегуціс (Летува), кандыдаты эканамічных навук І.Пеліпась і Л.Злотнікаў, а таксама кіраўнік Нацбанку Беларусі доктар эканамічных навук С.Багданкевіч.

У ходзе дыскусіяў будуць разгледжаны праблемы макраэканамічнай стабільнасьці, мікраэканамічнай лібералізацы, ход эканамічных рэформ на Беларусі.

Семінар завершыцца 26 жніўня.

**М.Т.**

**Нагадваем, што падпіска заканчваецца 31 жніўня. Падпіска на "ПАГОНЮ" прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленьнях. Кошт на квартал - 15 тыс. руб.**

## «І КРЫКНУЦЬ НЯ МОЖАШ «РАТУЙЦЕ», І МУСІШ ТЫ «ДЗЯКУЙ» КРЫЧАЦЬ»

### СТРАЙК У МЕНСКУ. ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

**17 жніўня** - пачатак безтэрміновага страйку работнікаў метрапалітэну і электрадэпо. Галоўныя патрабаваньні:

- выкананьне адміністрацыяй метро калектыўнай дамовы і своечасовай выплаты зарплаты;
- заключэньне тарыфнай дамовы прафсаюзаў метро і электрадэпо з гарвыканкамам;
- вызваленьне ад займаемай пасады начальніка метрапалітэну.

Пасьля таго, як мэр Менска Уладзімір Ярмошын паабяцаў выплаціць страйкуючым запазычаныя грошы (амаль 2 мільярды рублёў) за кошт зарплаты ўрачоў, настаўнікаў і г.д., рабочыя зьнялі пытаньне аб выплаце зарплаты.

Начальнік Службы кантроля прэзідэнта Васіль Даўгалёў прыгразіў звольніць з працы ўсе 2 тысячы работнікаў метро за наўмысны зрыў працы транспарту.

Увечары да памяшканьня дэпо былі сьцягнуты сілы АМАП. Міліцыя забараніла правядзеньне на плошчы Свабоды акцый пратэсту.

**18 жніўня** - адміністрацыя метро прымушае ўсіх рабочых пісаць тлумачэньні адносна свайго дачыненьня да страйку. З працы звольнены найбольш актыўныя ўдзельнікі страйку «за адсутнасьць на працы звыш 3-х гадзін». Пачынаецца ціск на Свабодны прафсаюз, які абвінавачаны ўладамі, як адзін з правакатараў страйку. Міністэрства культуры і друку вынесла папярэджаньне газеце «Свабодны прафсаюз» за «адсутнасьць даты падпісаньня нумара ў друк».

**19 жніўня** - міліцыя прымусіла разыйсьціся прыйшоўшых на плошчу Свабоды ўдзельнікаў страйку. У гэты ж дзень работнікі праваахоўных органаў прымусілі пакінуць памяшканьне свайго офіса супрацоўнікаў Свабоднага прафсаюзу Беларусі.

**20 жніўня** - супрацоўнікі міліцыі ноччу наведвалі кватэры ўдзельнікаў страйку і патрабавалі ад іх выхаду на працу. Пры гэтым, па словах С.Антончыка, яны пагражалі і шантажавалі работнікаў мятро.

**21 жніўня** - прама на вуліцы людзьмі ў чорных масках схоплены прафсаюзныя лідары. У пракуратуру для допыту прымусова дастаўленыя кіраўнікі аб'яднанага прафсаюзу метрапалітэну Мікалай Канах і Уладзімір Макарчук. У гэты ж дзень яшчэ 24 удзельнікі страйку былі прымусова затрыманыя і зьмешчаныя на базу сьпецвойскаў МУС. На тую ж базу быў зьмешчаны, нягледзячы на дэпутацкую недатыкальнасьць, Сяргей Антончык, а таксама Генадзь Быкаў - старшыня Свабоднага прафсаюзу. Затрыманыя ня маюць магчымасьці скарыстаць паслугі адвакатаў. Учынены вобыск штаб-кватэры Свабоднага прафсаюзу, канфіскаваны шэраг дакумантаў, адключаны тэлефон газеты «Свабодныя прафсаюзы». Галоўнае ўпраўленьне грамадзка-палітычнай інфармацыі абвінаваціла БНФ і Свабодны прафсаюз у дэстабілізацыі абстаноўкі і супрацоўніцтве са сьпецслужбамі Захаду. У сваю чаргу БНФ заявіў, што ня мае дачыненьня да страйку. Гэта ж пацьвердзілі ўдзельнікі страйку.

Мясцовыя ўлады запусьцілі метро, пасадзіўшы кіраваць цягнікамі «штрэйкбрэхераў» - машыністаў наземных чыгунак з Воршы і Баранавічаў.

**22 жніўня** - міліцыя другі раз абшукала офіс СПБ, арыштаваны разьліковы рахунак арганізацыі. Невядома месцазнаходжаньне Генадзя Быкава, затрыманага раніцай 21 жніўня і абвясьціўшага галадоўку пратэсту. У сувязі з арыштам С.Антончыка, група дэпутатаў ВС зьвярнулася да намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Івана Бамбізы. Спасылаючыся на свае зьвесткі, ён запэўніў іх, што ў 18.00 Антончык будзе вызвалены. Каля чатырох гадзін дня дэпутат пазваніў сваёй жонцы. У размове гучалі словы: «Мяне абслугоўвалі па поўнай праграме». Увечары таго ж дня жонцы Антончыка паведамілі, што яе муж будзе вызвалены.

У менскім гарадзкім судзе працягваецца слуханьне справы аб прызнаньні страйку незаконным. Раптоўна «захварэў» важны сьведка - начальнік метрапалітэну Уладзімір Набежка. У 18 гадзін страйк судом прызнаны незаконным.

Улады «выпісваюць» з Масквы інструктараў для штрэйкбрэхераў. Замежныя дыпламатычныя службы папярэдзілі сваіх супрацоўнікаў пра небясьпеку перамяшчэньня на метро. «Кішэннае» тэлебачаньне дае хроніку «падрыўной дзейнасьці» БНФ і «іншых нацыяналістычных» арганізацый за год.

**23 жніўня** - толькі ў гэты дзень вызвалены С.Антончык. Ён правёў прэс-канферэнцыю. На ёй дэпутат пацьвердзіў, што быў затрыманы насуперак сваёй волі і інтэрнаваны ў вайсковую частку ўнутраных войск. Там ён правёў увесь дзень пад аховай «людзей у чорных масках», пасьля чаго яго даставілі ў каравульнае памяшканьне турмы на вул. Апанскага ў Менску, а затым перавялі ў цэнтр падрыхтоўкі ўнутраных войск, які знаходзіцца ў 40 кіламетрах ад сталіцы. Наступнай раніцай дэпутата даставілі ў КДБ, дзе Антончыку паведамілі, што ўказам прэзідэнта адменена яго дэпутацкая недатыкальнасьць і супраць яго будзе ўзбуджана крымінальная справа «за арганізацыю незаконнай забастоўкі на менскім метрапалітэне».

Пасьля вызваленьня С.Антончыка група дэпутатаў парламанту пабывала ў намесьніка Генеральнага пракурора У.Кандрацьцева. Яны перадалі заяву аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту парушэньняў правоў чалавека і Законаў Беларусі падчас затрыманьня прафсаюзных актывістаў, якія праходзілі без ордэра на арышт і прад'яўленьня абвінавачваньня. Каардынатар парламанцкай апазіцыі С.Навумчык паведаміў, што Кандрацьцеў пацьвердзіў паведамленьне аб указе, які пазбаўляе С.Антончыка дэпутацкай недатыкальнасьці. Па словах намесьніка Генпракурора, гэты ўказ яму зачыталі па тэлефоне. Кандрацьцеў падкрэсьліў, што пракуратура будзе падпарадкоўвацца ўказу прэзідэнта, нягледзячы на канстытуцыйныя гарантыі дэпутацкай недатыкальнасьці. У цяперашні час ня ўсе затрыманыя прафсаюзныя актывісты вызвалены на волю. Выпушчана толькі 18 раней затрыманых работнікаў метро. Агульны лік затрыманых невядомы У 18 гадзін адбыўся суд над Г.Быкавым і М.Канахам. Яны атрымалі па 10 сутак за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу. Жонка Г.Быкава дагэтуль не атрымала афіцыйнай інфармацыі аб месцазнаходжаньбні свайго мужа. Міліцыя затрымлівае актывістаў прафсаюзнага руху, якія распаўсюджваюць улёткі.

Страйк метрапалітэну афіцыйна не прыпынены.

**24 жніўня** - раніцай абстаноўка не зьмянілася.

## «АДДАВАЙЦЕ ДЗЕТАК У БЕЛАРУСКІЯ КЛАСЫ!»

### ЗВАРОТ

**Да бацькоў, чые дзеці пойдуць у школу, да настаўнікаў і кіраўніцтва школ**

Сёньня, калі ў выніку рэферэндуму ўсталёўваецца ў нашай краіне афіцыйнае двухмоўе, пэўнымі сіламі, якія стараюцца недапусьціць беларускага нацыянальнага Адраджэньня, вядзецца непрыхаваная кампанія супраць беларускай школы. Адгаворваюць бацькоў ад навучаньня дзяцей пабеларуску і ў школах, і ў «зваротах», наклееных на тралейбусных апорах. Прастадушныя грамадзяне, што прывыклі верыць масавай агітацыі, перапісваюць заявы і пераводзяць сваіх дачок і сыноў у рускія класы. Таму зараз у гарадах вобласьці, асабліва ў Горадні і Лідзе, назіраецца паварот да рускамоўнай школы. Калі вясной гэтага года 70 % гарадзкіх школ былі беларускімі, то восеньню можа скласьціся адваротная сітуацыя. Такія крутыя павароты ў школьнай палітыцы балюча адаб'юцца на псіхіцы дзяцей, на ўзроўні школьнага навучаньня і выхаваньня.

Мы зьвяртаемся да тых бацькоў, чые дзеці сёлета пойдуць у першы клас ці прадоўжаць сваю вучобу ў наступных беларускіх класах. Шаноўныя бацькі! Аддавайце дзетак у беларускія класы. Захавайце паўсюль тыя класы, што ўжо існуюць. Не пазбаўляйце сваіх дзяцей будучыні - не адрывайце іх ад родных каранёў. Ня дайце сфармавацца ў іх душах здраднай пагардзе да роднай мовы, культуры, гісторыі. Сёньня Вы ў іх адымаеце родную мову, як некалі яе адабралі ў Вас. А заўтра гэта абярнецца здрадаю Вашых дзяцей ня толькі Айчыне, але і Вам самім. Маці, Бацькаўшчыну, родную мову не выбіраюць. Яна нам дадзена прыродай і гісторыяй. Наш ганаровы абавязак іх любіць, шанаваць, берагчы і абараняць.

Мы цьвёрда верым: будучае нашай Бацькаўшчыны - сьветлае. Дык жа будзьма вартымі гэтай будучыні, наблізім яе.

Жыве Беларусь!

**1.Домаш С.М. - старшыня Гарадзенскага абласнога Савету дэпутатаў**

**2. Евец Л.В. - прафесар Гарадзенскага медыцынскага інстытута**

**3. Сцяцко П.У. - загадчык кафедры мовазнаўства Гарадзенскага дзяржуніверсітэта, доктар філалагічных навук, прафесар**

**4.Мілінкевіч А.У. - намеснік старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму, кандыдат фізіка-матэматычных навук**

**5. Пяткевіч А.М. - дэпутат Гарадзенскага абласнога Савету, прафесар Гарадзенскага дзяржуніверсітэта**

**6. Цыхун А.П. - заслужаны настаўнік Беларусі**

**7. Фарманян Р.М. - рабочы завода «Радыёпрыбор»**

**8. Маркевіч М.М. - дэпутат ВС РБ, старшыня культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына»**

## ДАГУЛЯЛІСЯ!

**23 жніўня на тэрыторыі Гарадзенскага шклозавода ўзьнік пажар.**

Агнём была ахоплена плошча каля 1400 квадратных метраў. На тарным складзе згарэлі скрынкі са стружкай і гатовай прадукцыяй, пустая тара. Агонь таксама пашкодзіў кабіну, апоры і кабелі казлавога крана, які знаходзіўся побач са складам, вытворчае памяшканьне.

Па папярэдніх падліках, урон прадпрыемства ад пажару складае каля 1,5 мільярда рублёў.

Ёсьць зьвесткі, што пажар узьнік з-за дзіцячага свавольства. Некалькі хлопчыкаў, гуляючы, засунулі аднаго ў скрыню і падпалілі яе. У выніку ён атрымаў моцныя апёкі і дастаўлены ў рэанімацыю. Вядзецца сьледзтва.

**А.ДУК.**

## ЗАЯВА УПРАВЫ СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

У чарговы раз прэзідэнт праз манапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі распаўсюджвае дэзінфармацыю ў дачыненьні да БНФ «Адраджэньне». Гэтым разам у лепшых традыцыях камуністычнай прапаганды Фронт абвінавачаны ў арганізацыі страйку працоўных метрапалітэна і да таго ж па заданьню сьпецслужбаў заходніх краін.

Управа Сойму БНФ «Адраджэньне» заяўляе, што Фронт як грамадзкі рух ня мае ніякага дачыненьня да арганізацыі страйкаў. Абаронай працоўных ад уседазволенасьці і беззаконьня начальнікаў, адстойваньнем іх эканамічных інтарэсаў займаюцца прафсаюзы. Адначасова Управа Сойму БНФ «Адраджэньне» выказвае салідарнасьць з дзеяньнямі ўсіх працоўных калектываў, накіраванымі ў межах законнасьці на абарону чалавечай годнасьці, сваіх эканамічных інтарэсаў.

Правакацыйная заява А.Лукашэнкі накіравана на распальваньне варожасьці ў грамадзтве, што не адпавядае нормам Канстытуцыі Беларусі і маральнасьці. Выказваем абурэньне такімі паводзінамі афіцыйнай асобы.

У чарговы раз на Беларусі груба парушаны правы чалавека. За арганізацыю страйка затрыманы Уладзімір Макарчук і Генадзь Быкаў, а таксама дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сяргей Антончык, на якога распаўсюджваецца закон аб дэпутацкай недатыкальнасьці. Улады праводзяць вобыскі ў штаб-кватэры Свабоднага прафсаюзу без законных на гэта падстаў.

Управа Сойму Народнага Фронту патрабуе спыніць уседазволенасьць і беззаконьне, неадкладна вызваліць незаконна арыштаваных прафсаюзных актывістаў.

**21 жніўня 1995 г.**
**г.Менск.**

## «КРУГЛЫ СТОЛ» З ПРЭЗІДЭНТАМ, ЯКІ НЕ ВЫКОНВАЕ АБЯЦАНЬНЯЎ, - МАЛАВЕРАГОДНЫ

**17 жніўня Ліду наведалі старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянон Пазьняк, міністры ценявога кабінета Народнага Фронту Анатоль Станкевіч і Станіслаў Гусак. Іх суправаджалі адказны сакратар управы Народнага Фронту Вячаслаў Сіўчык і старшыня Гарадзенскай абласной рады Народнага Фронту Мікола Баўсюк.**

Госьці наведалі мемарыяльны комплекс «Незалежнасьць», што знаходзіцца паміж вёскамі М.Ольжава і Мохавічы, дзе Зянон Пазьняк усклаў кветкі на магілу паўстанцаў 1863 года. Затым адбылася сустрэча з калектывам рэдакцыі «Лідзкай газеты».

На стадыёне «Абутнік» лідары Фронту сустрэліся з жыхарамі горада. Адказваючы на пытаньне аб прэзідэнцкай ініцыятыве склікаць «круглы стол», лідар Народнага Фронту сказаў: «Які можа быць «круглы стол» са злачынцам, што зьбівае дэпутатаў, дзейнічае, не зьвяртаючы ўвагі на законы, і ніколі не выконвае сваіх абяцаньняў? Разам з тым, калі мы пабачым, што «круглы стол» прынясе хаця б мінімальную карысьць людзям і дзяржаве, наша дэлегацыя прыме ўдзел у ім». На прапановы землякоў выставіць у Лідзе сваю кандыдатуру на маючых адбыцца паўторных выбарах у Вярхоўны Савет Зянон Станіслававіч заўважыў, што Народны Фронт не прыняў яшчэ канчатковага рашэньня аб удзеле ў іх.

Зянон Пазьняк меў таксама гутарку з прадстаўнікамі царкоўнай рады праваслаўнай царквы Сьвятога Панцелеймона, першага на тэрыторыі Беларусі прыходу, які робіць спробы далучэньня да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, і ахвяраваў на пабудову храма 50000 рублёў.

**Язэп АБУХОВІЧ.**

## ЧАКАЕЦЦА АДСТАЎКА СІНІЦЫНА

**Як стала вядома, чуткі адносна перахода на іншую працу кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Л.Сініцына, які апошнія два месяцы мусіраваліся ва ўладных колах, хутчэй за ўсё ў бліжэйшыя дні могуць спраўдзіцца.**

Ёсьць інфармацыя, што падрыхтаваны праект прэзідэнцкага ўказа аб адстаўцы Сініцына. Крыніца, блізкая да кіраўніка дзяржавы, паведамляе, што адыход чарговага паплечніка Аляксандра Лукашэнкі быў прадвызначаны яшчэ ў ліпені. Аднак, па просьбе самога Л.Сініцына, адстаўка была адкладзена да яго вяртаньня з адпачынку.

У якасьці падставы для перамяшчэньня кіраўніка адміністрацыі выкарыстоўваліся абвінавачваньні ў яго адрас, прыведзеныя яшчэ ў антыкарупцыйным дакладзе Сяргея Антончыка (навучаньне сына ў адным з амерыканскіх універсітэтаў і рабочыя кантакты з прадпрымальніцкімі коламі). Рэальнай жа падставай, на думку крыніцы, зьяўляецца несупадзеньне па шэрагу пытаньняў пазіцый А.Лукашэнкі і Л.Сініцына. А таксама міжкланавая барацьба ў прэзідэнцкіх структурах за права эксклюзіўнага ўплыву на кіраўніка дзяржавы. Пошук і назначэньне кандыдатуры на месца, якое вызваляецца, будзе ў многім залежыць ад думкі дзяржаўнага сакратара Савета бясьпекі В.Шэймана і начальніка Упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі У.Замяталіна.

Упершыню інфармацыя аб мяркуемай адстаўцы Л.Сініцына пачала паступаць у лістападзе мінулага года і неаднаразова абвяргалася як самім кіраўніком адміністрацыі, так і іншымі прадстаўнікамі прэзідэнцкіх структур. Не выключана, што Л.Сініцыну ўдасца ўстаяць і на гэты раз, аднак верагоднасьць яго адыходу ў бліжэйшыя 2-3 тыдні як ніколі вялікая.

**СІМ**

## ПАКУЛЬ «ЦІТАНІК» ПЛЫВЕ...

**Беларуская эканоміка ўсё больш пачынае нагадваць вялізны «Цітанік», пасажыры якога плывуць і ня ведаюць, што дзесьці ў цемры карабель ужо чакае лядовая глыба якая расколе жыцьцё на две паловы: «да» і «пасьля»...**

Яскравым сьведчаньнем стаўленьня «капітанаў» беларускага «Цітаніка» да сваіх «пасажыраў» стала кампанія па траўлі рабочых сталічнага метрапалітэна, якія пайшлі на апошні, адчайны крок, каб дамагчыся чалавечых адносін да сваёй працы з боку кіраўніцтва. Улады адразу адчулі розьніцу паміж студэнтамі, якіх можна было лёгка разагнаць, а іх акцыю пратэсту замоўчыць, і машыністамі метро, страйк якіх выклікаў аграмадны рэзананс і адбіўся на кожнай сталічнай сям'і.

Зараз жа ў Менску выйшлі рабочыя, якія выставілі выключна эканамічныя патрабаваньні - павагі да чалавечай працы, стварэньня адпаведных умоваў для работы і адпачынку. Ствараўся прэцэдэнт, які мог па цагліне разбурыць гэтак старанна ўзводзімую ілюзію «паступовага пераходу да рынкавых адносін без сацыяльных патрасеньняў». І тады распачалася гнюсная кампанія па цкаваньню ўдзельнікаў страйку.

Ініцыятыва зыходзіла ад спрактыкаванай ужо ў такіх справах прэзідэнцкай «каманды». Ведамства Замяталіна пры дапамозе «кішэнных» сродкаў масавай інфармацыі старанна робіць з рабочых «шкурников», якія пякуцца толькі пра ўласны дабрабыт і плююць на астатніх. Старанна падлічваюцца заробкі страйкуючых, параўноўваюцца з мізэрнымі грашыма акадэмікаў (бедныя акадэмікі, ці ня вы самі вінаватыя ў сваім жабрацтве?!) З экранаў тэлевізараў не зыходзяць задаволеныя твары таксістаў, якія «нажываюцца» на «бядзе гараджан і гасьцей сталіцы», якія ня менш рэгулярна абураюцца з экранаў страйкам. Увесь час падкрэсьліваецца версія пра правакацыю з боку «пэўнай палітычнай сілы, якая праз дэстабілізацыю ў рэспубліцы імкнецца здабыць галасы выбаршчыкаў».

Улады вылучылі версію, што беларускія дзеячы Незалежнага прафсаюзу «адпрацоўваюць», страйкуючы, грошы, выдзеленыя вядомым ва ўсім сьвеце амерыканскім прафсаюзам АФТ-КПП на падтрымку незалежных прафсаюзаў краін былога СССР. Прамым тэкстам у якасьці «правакатара» называўся БНФ.

Пасьля «апрацоўкі» грамадзкай думкі пайшлі сілавыя меры. З працы звольнены дзесяткі самых актыўных удзельнікаў страйку, пачаліся арышты. Рабочых пагражаюць прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці «за арганізацыю і ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак». Усялякія мітынгі і шэсьці у падтрымку страйку ў момант акружаюцца міліцыяй. Робіцца ўсё, каб не дапусьціць далучэньня да страйку іншых рабочых. Мэта: застрашыць людзей, даведзеных да жабрацтва.

Самае страшнае тое, што ўлады самі давялі справу да канфлікту, а зараз вырашаюць яго сілай. Самае небясьпечнае ў тым, што на беларускім «Цітаніку» няма «вперёдсмотрящего», бо страйк у метро быў не праявай «нахабства» рабочых, а папярэджаньнем, што ня ўсё ладна на «караблі», і курс, узяты яго капітанам, - небясьпечны, бо наперадзе айсбергі поўнага эканамічнага краху... Але ніхто ня хоча і думаць аб тым, пакуль «Цітанік» плыве.

Калі ж ён пачне тануць - не шукайце выратавальныя лодкі - у іх ужо сядзяць капітан і члены каманды...

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## З РАСЕЯЙ ГАНДЛЯВАЦЬ НЕБЯСЬПЕЧНА

**Выступаючы перад калектывам рэдакцыі «Лідзкай газеты» міністр эканомікі ценявога кабінета БНФ Анатоль Станкевіч адзначыў, што нягледзячы на ўсе намаганьні Лукашэнкі, эканоміка аказваецца разумнейшай за ўсіх палітыкаў разам узятых.**

Колькі Лукашэнка ні крычыць пра сяброўства з Расеяй, узровень тавараабароту паміж Беларусьсю і «старэйшым братам» няўхільна падае. Калі ў 1991 годзе на Расею прыходзілася 87% беларускага экспарту, то зараз толькі 50%, і гэты паказчык стала падае. Прычына ў тым, што з Расеяй гандляваць страшна. Расейцы могуць запраста не заплаціць, скруціць цану, затрымаць грошы на некалькі месяцаў і г.д. Яны паводзяць сябе, як і належыць «старэйшаму брату», нахабна і цынічна. Таму беларускія суб'екты гаспадараньня і шукаюць партнёраў у Польшчы, Летуве, хоць у Эквадоры, алы не ў Расеі.

* * *

26 жніўня ў 12 гадзін у Лідзе пачне працу Гарадзенская абласная справаздачна-выбарчая канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Запрашэньні з нормамі прадстаўніцтва разасланы кіраўнікам гарадзенскай і раённых радаў БНФ.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ТРАСЯНКА ЯК АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

**Прайшло больш года з дня выбараў першага беларускага прэзідэнта. Сам факт выбараў вызначае, безумоўна, гістарычны паварот у лёсе беларускага народа. Пасьля іх наступае новы этап разьвіцьця ўсіх грамадзкіх дачыненьняў у краіне. Гэты этап, што таксама бясспрэчна, кароткім ня будзе.**

**Што ж стане сутнасьцю новага этапа, якія якасныя характарыстыкі будуць яго акрэсьліваць? Пры ўсёй умоўнасьці прагнозаў і сітуацыі агульнай хісткасьці і нявызначанасьці стану грамадзтва першыя высновы зрабіць, тым ня менш, магчыма.**

Пачнём з эканомікі. Агульным шляхам разьвіцьця паўнавартасных рынкавых адносін кіраўніцтва Беларусі ня пойдзе. Будзе працягвацца наменклатурная прыватызацыя для абраных, але па новых правілах і, магчыма, з большай сацыяльнай справядлівасьцю, каб не дражніць гусей, г.зн. простых выбаршчыкаў. Урад па-ранейшаму будзе кантраляваць, дазваляць, забараняць, толькі каб ня страціць магчымасьці заставацца ўладаром агульнанароднай уласнасьці, ня страціць нажытага пры камуністах прывілейнага становішча «новага класа». Эканамічнага росквіту такая палітыка не прынясе. Такім чынам, у эканоміцы будзе назірацца гібрыд рынку і прыгону.

Палітыка унутраная. Будзе ўзмацняцца выканаўчая ўлада за кошт астатніх. Палітыка страціць рэшткі прыстойнасьці. Будзе набіраць сілу апрычніна вертыкальшчыкаў. Разам з тым, прэзідэнт будзе захоўваць прадстаўнічую ўладу хаця б дзеля шырмы і пярунаадвода. Усталюецца рэжым дэкаратыўнай дэмакратыі.

Палітыка зьнешняя. Па ўсіх пытаньнях урад будзе хавацца пад крыло ўсходняга брата (дарэчы, прапаную ў новым беларускім пашпарце з мусульманскай сімволікай увесьці графу «старшы брат»). Аднак прамога кіраваньня імпэрска-мафіёзных сілаў з Расеі прэзідэнт не дапусьціць, бо першым, каго яны зьядуць, будзе сам Пан Прэзідэнт з ягонай вертыкальлю. Усе астатнія накірункі застануцца млявацякучымі ў той ступені, у якой гэта будзе задавальняць тую альбо іншую краіну. Значыць, вектарам зьнешняй палітыкі стане недакучлівы суверэнітэт.

Правы чалавека. Яны будуць у асноўным выконвацца (у Эўропе жывем, як гэта ня прыкра нашаму кіраўніцтву), за выключэньнем некаторых палітычных правоў, якія ўлада суб'ектыўна ацэніць як небясьпечныя для яе. Законнасьць таксама будзе захоўваецца аж да той мяжы, за якой закон абмяжоўвае свавольле ўладаў, а гэта значыць, што ў галіне правоў чалавека і законнасьці запануе прынцып мэтазгоднасьці альбо кастрыраванасьці.

Культура і навука будуць разьвівацца пераважна ў прыкладным накірунку, хаця ўлада скрозь пальцы будзе глядзець на вольнадумства да той ступені, калі яно пачне набываць арганізаваныя формы. Нацыянальная інтэлігенцыя будзе франдзіраваць. На абшарах чужых культур беларускія дзеячы ня змогуць пераадолець спрадвечны правінцыялізм. Такім чынам, культура, навука, адукацыя, мастацтва стануць духоўнымі жабракамі пры зьнешняй выкшталцонасьці.

Ну, і ўрэшце, што стане з Панам Прэзідэнтам? Ён канчаткова вызначыцца са сваёй сацыяльнай базай, якая з яго партрэтам і сьцягам пойдзе на наступныя прэзідэнцкія выбары. Ею стануць пры такім раскладзе людзі сталага ўзросту, далей наменклатура, рабочыя, сяляне, служачыя сілавых ведамстваў, бо апісаны ўзор грамадзкага ладу іх цалкам задавальняе.

Галоўнай якаснай характарыстыкай, якая акрэсьлівае такі грамадзкі лад, зьяўляецца мешаніна ўзаемавыключаючых прынцыпаў, такіх як капітал і прыгон, дэмакратыя і аўтарытарызм, суверэнітэт і падначаленасьць, законнасьць і свавольства, свабода і цэнзура, духоўнасьць і глупства. Гэта мешаніна выглядае настолькі па-беларуску, што найлепшай назвы для яе, як трасянка, не падбярэш. Дык вось, прагназуемай ідэалогіяй кіраўніцтва нашай дзяржавы, прэтэндэнтам на так доўга чаканую і шуканую агульнанацыянальную ідэю выступае знакамітая трасянка.

Падобна на тое, што ў дваццаць першае стагоддзе мы пойдзем натхнёныя трасянкай. Усе на пабудову новай грамадзка-палітычнай фармацыі! Праўда, ня ўсё будзе залежаць ад уладаў. Галоўная перашкода для палітрукоў трасянкі ў тым, што дзяржава-трасянка не задавальняе досыць вялікую частку выбаршчыкаў: перш за ўсё моладзь, інтэлектуалаў, бізнэс. Па-рознаму галасуюць захад і ўсход, праваслаўны і каталік, чалавек просты і чалавек няпросты. Калі пасада залежыць ад выбараў, усё можа здарыцца.

Ва ўсякім разе тых, хто верыць у магчымасьць заканадаўчай забароны клімаксу, становіцца ўсё меней.

Выснова: дзяржава-трасянка не адпавядае інтарэсам прагрэсіўнай часткі беларускага народа. Трасянцы - не!

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## КАРПЕНКУ «ШЫЮЦЬ» «БАВАЎНЯНУЮ СПРАВУ»

У інтэрв'ю Краснаярскаму тэлебачаньню Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў беларускую апазіцыю ў спробах перашкодзіць пастаўкам на Беларусь сыравіны ды розных іншых тавараў. У прыватнасьці, Генадзю Карпенку «шыюць» «баваўняную справу». Без сумневу, да выбараў аналагічныя «справы» навесяць і на іншых лідараў апазіцыі.

**В.Р.**

## ХАЛУЙСТВА, ДАВЕДЗЕНАЕ ДА АБСУРДУ

**Яшчэ нядаўна над дзьвярыма Лідзкага пастарунка вісела бел-чырвона-белая шыльда з надпісам «Міліцыя».**

Але адбыўся рэферэндум і пачалося выкараненьне нацыянальных колераў. Міліцыя пайшла ў першых шэрагах, але паколькі яны - міліцыя ўсё-такі беларуская г.зн. крыху гультаявая, крыху расхлябаная і вельмі любіць прымаўку «і так добра будзе», то шыльду мяняць ня стала, а замалявала белыя палосы зялёнай фарбай. Атрымаўся зялёна-чырвона-зялёны сьцяг. Заглянуўшы ў энцыклапедыю, магу вам давесьці, што гэта сьцяг Сурынаму. Толькі зоркі пасярэдзіне не хапае. Што ж, хай жыве сурынамская міліцыя ў Лідзе!

**Міхась ПАДКАВАНЫ.**

 







# ДЫРЭКТАРУ ВЫКАЗАНЫ НЕДАВЕР

**Эканамічнае становішча прамысловых прадпрыемстваў Горадні працягвае пагаршацца. І работнікі то аднаго, то другога выказваюць абурэньне. Надыйшла чарга завода такарных патронаў.**

Але работнікі гэтага прадпрыемства ня сталі перакрываць вуліцу, а склалі ліст. У ім выказана незадаволенасьць працай кіраўніцтва завода па вываду яго з крызісу, сістэматычнай затрымкай выдачы зарплаты, невыкананьнем адміністрацыяй абавязкаў па выплаце кампенсацый за яе затрымку. Працоўныя расцэньваюць гэта як парушэньне калектыўнага дагавору. Акрамя таго, без уліку думкі калектыва, сьцьвярджаецца ў лісьце, створана сумеснае прадпрыемства па вытворчасьці лічыльнікаў газу. У сувязі з гэтым, каля трохсот работнікаў падпісаліся пад тым, каб выказаць недавер дырэктару завода такарных патронаў А.Фралову як «няздольнаму кіраваць дадзеным прадпрыемствам».

Ліст складзены 16 жніўня і накіраваны ў абласны і гарадзкі выканаўчыя камітэты, Ленінскі райвыканкам Горадні, прафкам завода і Міністэрства прамысловасьці краіны. Пакуль ніякіх афіцыйных адказаў з гэтых інстанцый працоўныя не атрымалі. А А.Фралоў напісаў заяву аб звальненьні па ўласнаму жаданьню і знаходзіцца на бальнічным. Ён лічыць, што стаў непажаданым камусьці «зьверху».

На наступны тыдзень запланавана правядзеньне канферэнцыі працоўнага калектыву, на якой будзе пастаўлена пытаньне аб даверы дырэктару завода. Аб яе выніках мы абавязкова паведамім чытачам «Пагоні».

**А.ДУК.**

# МАМА, КУПІ ХОЦЬ ФАРТУШОК!

**Дзяўчынка са сьлязьмі на вачах упрошвала сваю маці, а тая, сарамліва апусьціўшы вочы, абяцала, што зробіць гэта заўтра, пазычыўшы грошай у дзядзі Мішы.**

Прайсьці міма гэтай сцэны было немагчыма. З цяжкасьцю, але ўсё ж удаецца разгаварыць маладую яшчэ жанчыну, якая з болем распавядае, што прыходзіцца зьбіраць па сваяках абноскі іх дзяцей, бо купіць штосьці новае для дачкі няма за што: муж які месяц сядзіць бяз працы, перабіваючыся выпадковымі падпрацоўкамі, а самой гаспадыні на сваю зарплату ў 300 тысячаў пракарміць сям'ю з 4-х чалавек ўдаецца ледзьледзь. А тут яшчэ сына ў першы клас адправіць трэба ды дачку ў чацьвёрты...

Дык колькі ж каштуе сёньня школа? Прапануем вашай ўвазе кошты на школьныя тавары ў крамах «Дзіцячы сьвет» і «Універмаг»:

- школьны касьцюм для хлопчыка - 240 тыс. рублёў
- кашулька - 25-50 тыс. рублёў
- школьная сукенка - 150 тыс. рублёў
- фартушок - 30-35 тыс. рублёў
- чаравікі - 65-100 тыс. рублёў
- шкарпэткі, гольфікі, банты - па 5-10 тыс. рублёў
- куртка ці паліто - 150-300 тыс. рублёў.

Такім чынам, толькі на тое, каб апрануць сваё дзіця перад 1 верасьня, трэба выкласьці з кішэні больш мільёну рублёў. І гэта пры тым, што прыведзены вышэй пералік тавараў далёка ня поўны, а тавары - самыя сьціплыя, «нефірмовыя».

Кошты на школьныя прыналежнасьці шакіруюць ня менш. Адзін толькі ранец абыйдзецца для вас у 70-100 тысячаў. Сшытак каштуе 1200-3000 тысячы, ручка - 2500-6500, альбом для маляваньня - 6000-10000, просты аловак - 2000, дзёньнік - 6000 рублёў і г.д.

Ва універмазе ўвагу шмат каго прываблівае школьны кірмаш, дзе «па зьніжаных на 50% коштах» можна набыць усё. Дык вось толькі нават такая «скідка» па кішэні адзінкам. Да прыкладу, добры ранец тут каштуе 249 тысячаў, набор фарбаў - 75 тысячаў, каляровых алоўкаў -82 тысячы, пенал - 100-180 тысяч, ручка - 14200...

Вось і здараюцца час ад часу ля прылаўкаў сцэны, апісаныя на пачатку гэтай нататкі. У вёсках некаторыя сем'і сьпецыяльна заводзілі ў гаспадарцы лішнюю сьвіньню, каб, прадаўшы затым мяса, сабраць дзіця ў школу. А што прадаць сям'і рабочага, у якога акрамя ланцугоў нічога ўжо не засталося?

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## «ПАГОНЯ»: АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

У нумары 29 Вашай газеты за 4-10 жніўня г.г. мяне дужа зацікавіў артыкул сябра Народнага Фронту Сяржука Паўленкі «Час прыйшоў! Моладзь направа».

Справа ў тым, што мы ў Баранавічах ужо больш як паўгады працуем над стварэньнем патрыятычнай Маладзёжнай арганізацыі, падобнай на тую, аб якой піша сп.Паўленка.

Такая арганізацыя, дарэчы, ужо створана ў Маладэчне і мы з імі маем добрую сувязь. Нам вельмі хацелася б наладзіць сувязь і з гарадзенцамі.

**З павагай Алесь ГОРБАЧ, г.Баранавічы.**

**P.S.** Мой адрас: 225316, г.Баранавічы, вул.Прамысловая, д.5А, кв.112. Горбачу А.К.

## СТРАЙК У МІНОЙТАХ

**Стыхійны страйк узьнік 16 жніўня ў аб'яднаньні Міжрайагратэхніка, што знаходзіцца ў Мінойтах Лідзкага раёну.**

Рабочыя заблакавалі ўваход на тэрыторыю з патрабаваньнем скліканьня нечарговай сесіі раённага Савету, каб вырашыць пытаньне адстаўкі дэпутата гэтага Савету а разам і дырэктара аб'яднаньня спадара Савашынскага.

Справа ў тым, што рабочыя ўжо некалькі разоў выказвалі яму недавер, але сп.Савашынскі ў адстаўку ня йдзе. Не ўдалося пераканаць яго і дэпутацкай групе, якая прымчалася «тушыць» страйк. Дэпутатам удалося толькі ўгаварыць рабочых пачакаць два дні. Напэўна, працяг будзе.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## НОВЫ МАЛЕЛЬНЫ ДОМ

**У Лідзкім Паўднёвым гарадку адчыніўся малельны дом хрысьціянскай царквы «Благодать».**

Пад яго пераабсталяваны металічны ангар, які ў свой час паставіла нямецкая фірма, што будавала Паўднёвы гарадок.

У сувязі з адкрыцьцём малельнага дома на мінулым тыдні Ліду наведала дэлегацыя амерыканскіх вернікаў, галоўным чынам дзетак, колькасьцю ў 120 чалавек.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# ЧАТЫРЫ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ З КУЛЯЙ




К.ДАЎГУН

Канстаньціну Мікалаевічу Даўгуну, што з вёскі Некрашы Гарадзенскага раёну, амаль 88 гадоў. Ён удзельнік двух войн. Ваяваў у складзе Войска Польскага ў верасьні 1939 года, а затым у складзе Чырвонай Арміі ў Айчынную вайну. Мужна змагаўся наш зямляк, аб чым сьведчаць узнагароды - ордэн Айчыннай вайны другой ступені і дванаццаць медалёў, сярод якіх ёсьць і «За адвагу». Цікава, што чатыры дзесяцігоддзі Канстаньцін Мікалаевіч хадзіў з куляй у шчацэ, аб чым і сам ня ведаў. А здарылася вось што. Канстаньцін Мікалаевіч удзельнічаў у наступальных баях каля нямецкага горада Дрэздэн. У адным з баёў ён быў паранены. Памятае франтавік, што нешта ўдарыла яго моцна ў пераносіцу і правую шчаку, палілася кроў. Месяц прыйшлося праваляцца ў медсанбаце, рана зажыла, застаўся толькі рубец, што няспынна нагадвае аб вайне.

Усе сорак гадоў Канстаньцін Мікалаевіч адчуваў у шчацэ штосьці цьвёрдае, часта адкрывалася рана, гнаілася, зноў зажывала. Шмат разоў яго аглядалі лекары, але пабочнай рэчы не выявілі. Калі ў чарговы раз адкрылася рана, ён зноў зьвярнуўся да медыкаў, атрымаў скіраваньне ў абласную бальніцу. Перад гэтым, прамываючы рану, Канстаньцін Мікалаевіч пачуў, як штосьці бразнула ў вядро. Праверыў. Аказалася - бранебойная куля, якая добра захавалася ў целе. Яна адкульсьці зрыкашэціла і, ужо губляючы сілу палёта, аказалася ў шчацэ жаўнера.

**Ільля БАРЫСАЎ. Фота аўтара.**

# ПАДВОДНЫЯ КАМЯНІ ВАКОЛ ЗЭЛЬВЕНСКАЙ ГРЭС

**Зэльвенская ГРЭС прызначана для таго, каб ліквідаваць недахоп электраэнергіі на Беларусі. Энергетычная ўстаноўка заказана ў Германіі. Паліва - газ. Але газ ня самае выгаднае паліва. Адна кілават-гадзіна электраэнергіі на газавай установцы каштуе на 30% даражэй, чым на мазутнай. У Зэльве ж ставіцца ўстаноўка, якая здольна працаваць толькі на газе і ня зможа перайсьці на ніякі іншы від паліва. Экалагічных выгод таксама ніякіх. Для каго ж тады бярэцца заведама нявыгадны праект? А справа вось у чым.**

У Расеі здабыча нафты падае. Усходнія раёны Расеі пачалі імпарт нафты. Нафтаперапрацоўчыя заводы недагружаны, у тым ліку і нашыя. Беларускія заводы здольны перапрацоўваць 40 мільёнаў тон у год. Летась перапрацавалі толькі 12 мільёнаў тон. Хочам мы ці не, а мусім адвязвацца ад расейскай нафты. Народны Фронт яшчэ ў 1990 годзе прапанаваў ідэю Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара. Але ні ўрад Кебіча, ні тым больш урад Лукашэнкі гэтую ідэю не прымае. Яны знайшлі выйсьце ў пераходзе на газ, але зноў жа расейскі. Справа ў тым, што Эўропа пачынае адмаўляцца ад расейскага газу з-за нізкай якасьці, высокай цаны і экалагічнай шкоднасьці. Экспарт скарачаецца. Патрэбны новыя рынкі збыту. Такі рынак - Беларусь. Пры гэтым вырашаюцца наступныя задачы: Беларусь прывязваецца да Расеі па газу, таму што іншае паліва становіцца немагчымым; здымаецца пытаньне пра пошукі іншых крыніц нафты; можна дыктаваць цэны. Ужо сёньня на Беларусі адзін кубаметр газу ў 2,5 разы даражэй, чым у Расеі, а значыць і электраэнергія і ўсё тое, на што яна патрачана даражэй у столькі ж.

Зэльвенская ГРЭС - толькі прыклад. Адначасова на газ пераводзяцца сотні аб'ектаў па ўсёй Беларусі. Сьвежы прыклад - кацельная Лідзкай Райсельгастэхнікі, якая да зімы будзе на газе.

Такім чынам, супраць Беларусі праводзіцца энергетычная дыверсія ў выглядзе манапалізацыі Расеяй усіх нашых энергакрыніц.

Гэтую палітыку Лукашэнка праводзіць наўмысна. Ён ставіць Беларусь у поўную залежнасьць ад Расеі.

**Станіслаў ГУСАК, міністр ценявога кабінета БНФ.**

# ГУЛЬНЯ Ў «ДОБРАГА БАЦЬКУ»

**Дэмакратычная прэса згодным маўчаньнем адказала на валтузьню ўладаў і афіцыйных «падбрэхічаў» вакол славутых указаў Аляксандра Рыгоравіча пра ільготы і пеньсіі. Нельга было ўмешвацца, трэба было даць «народнаму прэзідэнту» пабыць тэт-а-тэт з народам. Безумоўна, што прэзідэнт чакаў рэзкай рэакцыі БНФ, дэмакратычных газет, прафсаюзаў. А калі гэтага не адбылося, вымушаны быў даваць задні ход на голым месцы.**

Тое, што абодва ўказы працуюць супраць яго, пад корань рэжуць яго электарат, Аляксандр Рыгоравіч ведаў яшчэ да падпісаньня, але падпісаў. Дзеля чаго? А ўсё проста. Жыцьцёвы ўзровень падае, прамысловасьць у абвале, незадаволенасьць людзей расьце. Трэба было нагадаць народным масам, хто ў хаце гаспадар. І вось «гаспадар» двума росчыркамі «Паркера» адбірае ў гэтых масаў усе іхнія сацыяльныя заваёвы за 75 гадоў Савецкай улады. Масы азадачаны. Масы ўхапіліся за асадкі і кінуліся пісаць лісты.

Вось тут з-за сьпіны «гаспадара і самадзержца ўсяе Беларусі» выступае «добры бацька», які адклікае ўказы, каб іх падкарэктаваць словамі «па рашэньню адмінітрацыі», «у асобных выпадках», «для асабліва значных асобаў» і г.д. Масы расчулены: «Благадзецель, мог адабраць усё, але ж не, частку пакінуў». Хоць і паставіў гэтыя масы ў яшчэ большую залежнасьць ад мясцовых чыноўнікаў, ды гэта ўжо нікога не пужае. З мясцовымі дамовімся. Дзе падмажам, дзе пад'едзем, дзе надурым. Але «бацьку» не забудзем. Будзем сядзець ціха, супраць клятага БНФ галасаваць будзем, бо раптам «бацька» ізноў засярдуе.

Што ж, пуга і пернік. Метад стары як сьвет. Але справа выглядае на тое, што Аляксандр Рыгоравіч здолеў і тут унесьці сваё. Падобна, ён пернікі навучыўся пячы калі не з самой пугі, дык з пугаўя пэўна.

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

 

## «...РАГНЕДА, ЕЎФРАСІНЬНЯ І ЛАРЫСА ...»

**Сёлета Ларысе Антонаўне споўнілася б 85 гадоў. Урачыстасьці арганізавалі актывісты Жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, тэатр аднаго актора «Зьніч» з Менску, мясцовы аддзел культуры райвыканкаму.**

Ушанаваць памяць славутай паэткі прыязджаў мітрапаліт Філарэт, Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі. Ён правёў літургію ў Троіцкім храме, дзе заўжды прыжыцьцёва Ларыса Антонаўна прысутнічала на набажэнствах, наведаў магілу, дзе пад мармуровым камянём знайшлі вечны спачын Ларыса Антонаўна і яе муж Іван Пятровіч Геніюш.

Сьвятары адзначалі ня толькі сьцячэньнем абставінаў тое, што яна нарадзілася ў дзень памяці сьвятога вялікамучаніка Панцелеймона і пахавана якраз на сьвята Дабравешчаньня, але і яе сьвятасьцю, вялікай духоўнасьцю і мужнасьцю. Бо «свой» грунт, сваю праўду (якую яна несла праз творы) яна мацавала на камяні праваслаўнай веры, які тысячы гадоў назад быў пакладзены на нашай зямлі...»

«Яе жыцьцё - наш шматпакутны лёс народа Беларусі. Яна - сімвал еднасьці любові да Бацькаўшчыны... і да Госпада. Гэта ёсьць наш *цяперашні шлях выратаваньня. Ёсьць вера і* ўпэўненасьць, што з кожным годам усё больш людзей будзе зьбірацца ўшаноўваць яе памяць, бо тут гэты агмень сапраўднай сьвятасьці і духоўнасьці...»

Адбылася імша па Ларысе Геніюш і ў мясцовым касьцёле. Група людзей ад самага касьцёла на чале з ксяндзом Уладзіславам крочыла да магілы славутай паэткі. Над калонай луналі бел-чырвона-белыя сьцягі...

І так паўсюдна, дзе праходзілі мерапрыемствы ўшанаваньня паэткі. На Зельвеншчыне, нарэшце, упэўнена адчуваў сябе дух беларускі. Шмат цёплых, чульлівых слоў сказана ля магілы славутай паэткі. Сярод прамоўцаў былі: сваячка Ларысы Геніюш, мясцовая настаўніца Ларыса Сталпец, грамадзкі дзеяч, археолаг і сябра паэткі Міхась Чарняўскі, пісьменьнік Алесь Траяноўскі, паэтка - ураджэнка Зэльвеншчыны Антаніна Хатэнка...

Спадар Пятро Рашэтнікаў -былы вязень сталінскіх лагероў, што сядзеў разам з паэтэсай у Інце, на Поўначы, згадаў адзін з эпізодаў яе жыцьця ў Празе. «...Калі Ларыса Антонаўна пабралася з Янкам Геніюшам, стала жыць у Празе. Там яшчэ дзейнічалі старыя беларускія кадры. Жыў яшчэ Васіль Захарка, Вяршынін ды шэраг іншых беларускіх паўстанцаў. Ларыса Антонаўна была запрошана стаць сакратаркай рады БНР. Яна выконвала абавязкі без усякай аплаты, без нічога, на так званых грамадзкіх пачатках. Калі Захарка памёр, усе архівы БНР перайшлі да Ларысы Антонаўны. Яна іх захоўвала гадамі. Калі савецкі фронт падыходзіў пад Прагу, у горадзе зьявіліся агэнты Цанавы, якія зацікавіліся архівамі Беларускай Народнай Рэспублікі. Яны хацелі забраць іх не для таго, каб захаваць, а зьнішчыць. У Ларысы Геніюш ужо зьявіўся агэнт, які прадставіўся і адкрыта цікавіўся архівамі. Бачачы для архіваў небясьпеку, іх пераправілі на Захад і цяпер яны знаходзяцца за акіянам. Яны ў надзейных руках старшыні рады БНР у Амерыцы спадара Язэпа Сажыча. Гэта мой зямляк з Наваградка. Знаходзяцца там і другія нашы суайчыньнікі. Яны захоўваюць дакуманты. Калі спадар Сажыч прыязджаў сюды ў Менск, ён хадзіў у Савет Міністраў, якім на той час верхаводзіў Вячаслаў Кебіч. Хацеў перадаць гэтыя дакуманты, як гэта зрабілі на Украіне. Але пасьля сустрэч спадар Сажыч зрабіў выснову, што там няма каму іх перадаваць - там ніхто на беларускай мове нават не гаворыць. Гэты Саўмін не беларускі, а антыбеларускі. Зрабіўшы гэткую разумную выснову, ён павёз іх назад - за акіян. Будзем спадзявацца, што калі бел-чырвона-белы сьцяг зноў стане дзяржаўным, Саўмін - беларускім і тады гэтыя архівы БНР, што захавала Ларыса Антонаўна, зноў вернуцца назад...»

Усяго другі раз пасьля паховін Ларысы Геніюш наведалі сёлета Зэльву яе пляменьнік Георгі Грынкевіч, а таксама пісьменьнік Уладзімір Арлоў: *«І хоць у дзень нараджэньня, стоячы ля магілы,* усё роўна непазьбежна прыгадваеш дзень яе сьмерці - дзень пахаваньня дарагой Ларысы Антонаўны, якую мы называлі бабуляй. Сапраўды для шмат каго з маіх сяброў яна замяняла тых бабуляў, каго расстралялі ў 30-я, згнаілі ў ГУЛАГу. Таму сёньня сэрца ўспамінае боль тых дзён, плячо ўспамінае цяжар труны. Памятаецца, як быў сарваны сцэнар людзей у цывільным, якія загадвалі ставіць дамавіну на грузавік і ня несьці на руках, а хуценька завезьці. Тым ня менш, ад хаты да месца паховін труну несьлі на руках. Існуе такая думка, што ў вечным жыцьці душы творцаў, мастакоў, паэтаў жывуць сярод тых вобразаў, якія яны стварылі ў сваім зямным жыцьці. Ларыса Геніюш пакутліва і сьветла марыла пра беларускі дом...»

На ўшанаваньне памяці завітала сёлета сп.Надзея Дземідовіч з Меншчыны. Чалавек, лёс якога цесна пераклікаецца з лёсам Ларысы Антонаўны: «Я была зусім падлеткам, калі прачытала яе вершы, якія запалі ў душу. Мяне забралі з восьмага класа і, як яе, невядома за што асудзілі на чвэрць стагоддзя...»

Краязнаўца са Слоніма Сяргей Чыгрын паведаміў, што да друку рыхтуецца факсімільнае выданьне яе першага зборніка «Ад родных ніў», якое выйшла ў Празе ў 1942 годзе. Ужо закуплена чэшская папера для гэтай кнігі. Дзесьці праз месяц мы будзем ужо трымаць новае выданьне зборніка Ларысы Геніюш. «Але, гэта сакрэт, дзе кніга будзе друкавацца, бо каб нам не забаранілі... Яна (Л.А.) заслугоўвае большага, чым робіцца...»

Гэтую думку працягвала старшыня жаночага дэмакратычна-хрысьціянскага руху Людміла Пеціна: «...Пасьля сьмерці Ларысы Антонаўны акт поўнай яе рэабілітацыі яшчэ не адбыўся. Тут у Зэльве яшчэ няма музея Ларысы [illegible] мусім зрабіць...» Прамоўца засяродзіла ўвагу на тым, што з кожным годам усё больш моладзі зьязджаецца ў Зэльву да магілы паэткі, каб ушанаваць яе памяць.



*Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч Геніюшы.*

У гэты ж дзень у раённым Доме культуры адбыўся монаспектакль «Белы сон» паводле «Споведзі» Ларысы Геніюш, з якім выступіла артыстка тэатра аднаго актора «Зьніч» Галіна Дзягілева.

Госьці і зельвенцы таксама паглядзелі кінастужкі студыі «Спадар Д.» «Малітва маёй зямлі» і «Сьлёзы блуднага сына».

Завяршыць аповяд пра сьвяткаваньне 85-х угодкаў з дня нараджэньня слыннай беларускай паэткі хочацца радкамі верша нашай зямлячкі Антаніны Хатэнкі:

*«Рагнеда, Еўфрасіньня і Ларыса*
*Праменьні радаводнага сьвятла...»*

Верш гэты быў у той жа дзень пакладзены на музыку.

**Пятро ЖЭБРАК.**

## КРАЯВІДЫ НЯМЕЧЧЫНЫ

**У мінулую суботу ў гарадзенскай галерэі «У МАЙСТРА» адчынілася выстава прац мастачкі з нямецкага горада Міндэн Маргарэт Гротэ. На вернісаж прыйшло шмат людзей, у тым ліку і гасьцей з замежжа, ажно, як кажуць, яблыку не было дзе ўпасьці, каб паглядзець на невялікія малюнкі, выкананыя ў асноўным акварэльлю і пастэльлю.**



*Мастачка з Міндэна Маргарэт Гротэ.*

Фраў Маргарэт шмат падарожнічае з альбомам і эцюднікам па навакольным мясцовасьцям Міндэна ды іншых гарадкоў, таму й ня дзіўна, што ў сваіх працах яна адлюстроўвае прыгажосьць вясковага ландшафту, малюе пейзажы й далікатныя кветкі. Акрамя гэтага яна аздабляе кнігі, працуе над віншавальнымі паштоўкамі. Карціны мастачкі выстаўляліся ў шматлікіх галерэях Нямеччыны.

Маргарэт Гротэ была вельмі ўсьцешана посьпехам сваёй выставы ў Гародні й шчырай зацікаўленасьцю мясцовых аматараў выяўленчага мастацтва. Дарэчы, нямецкая мастачка ўпершыню дэманструе свае карціны на Беларусі.

**Людвік САРОКА.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## ЛЕТУВІСКІЯ ПАЛІЦЫЯНТЫ Ў ЛІДЗЕ

***З 17 па 19 жніўня ў Лідзе знаходзілася дэлегацыя летувіскай паліцыі, якая складалася з прадстаўнікоў пяці камісарыятаў Летувы.***

У праграме візіту: абмен вопытам, разгледжваньне некаторых пытаньняў узаемадзеяньня, а таксама спартакіяда па агульных і прыкладных відах спорту.

Прымалі летувісаў па-сяброўску гасьцінна, нягледзячы на тое, што яны не расейцы.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ВІЗІТ РАСЕЙСКІХ ГЕНЕРАЛАЎ

**17 жніўня ў Ліду прыехала група інсьпектараў Міністэрства абароны Расеі.**

Але мэта візіту аказалася дыяметральна супрацьлеглай той, якая чакалася. Замест разгляду пытаньняў канчатковага вываду расейскіх войскаў з Ліды, расейскія генералы займаліся праверкай гатоўнасьці войскаў да зімы. Відаць, Лукашэнка дабіўся свайго і расейцы вырашылі яшчэ пабыць на Беларусі.

Нагадаем, што зараз на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца 30 ядзерных ракет Расеі, 35000 расейскіх вайскоўцаў. Памяркоўныя беларусы плацяць за гэта са сваёй кішэні 6 мільярдаў долараў штогод.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса, выступаючы ў Бельску-Бялай з нагоды 15-годдзя «Салідарнасьці», выказаўся, што яму сорамна, бо ён ня выканаў усе свае перадвыбарчыя абяцаньні. Таму ён будзе выстаўляць сваю кандыдатуру на сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах.

* * *

Віцэ-адмірал Марэк Точэк, камандуючы Надвісьлянскімі часткамі Міністэрства ўнутраных спраў падаў у адстаўку пасьля таго, як сьпецыяльная камісія высьветліла, што ў гэтых частках зьдзяйсьняецца арганізаваны збор подпісаў за Леха Валэнсу. Дарэчы, атрыманьне грашовага ўзнагароджаньня вайскоўцамі ставілася ў залежнасьць ад згоды паставіць подпіс. Мяркуецца, што ў адміністрацыі прэзідэнта пра гэта ведалі.

Палітычная дзейнасьць у войску і паліцыі забаронена законам.

* * *

Пытаньне пра павышэньне пеньсій у верасьні ўрад Польшчы адклаў да канца месяца. Планавае павышэньне павінна было адбыцца ў сьнежні, таму многія лічаць, што гэта мерапрыемства зьвязана з прэзідэнцкімі выбарамі.

**Ю.Г.**

## УКРАІНА

**КІЕЎ**

«Адна з прычын часовай фінансавай дэстабілізацыі на Украіне -неўраджай у Расеі і небясьпека вывазу туды часткі ўкраінскага зерня. У Расеі зерне могуць купіць па больш высокіх цэнах», - такую заяву на прэс-канферэнцыі зрабілі прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта Украіны.

Гаворачы аб праблеме перазахаваньня Пактрыярха Уладзіміра, віцэпрэм'ер І.Курас падкрэсьліў, што месцам перазахаваньня можа быць толькі Выдубецкі манастыр (Украінская Праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхату настойвае на захаваньні Патрыярха ў сьценах сабора Сьвятой Сафіі).

* * *

Судовае разбіральніцтва па факту аб забароне дзейнасьці партыі Украінская Нацыянальная Асамблея (УНА) не адбылося.

Справа павінна была слухацца ў Старакіеўскім раённым судзе Кіева. Зала паседжаньняў не ўмясціла ўсіх жадаючых прысутнічаць на судзе. Суддзя Т.Козар патрабавала, каб тыя, каму не хапіла месцаў, пакінулі залу. Прысутныя адмовіліся выканаць патрабаваньні суддзі, тады Т.Козар сама пакінула залу паседжаньняў. Пасьля гэтага там адбылася імправізаваная прэс-канферэнцыя лідараў УНА. Яны заявілі, што «цяперашняе судовае разбіральніцтва - спроба ўлад расправіцца з пятай па колькасьці на Украіне апазіцыйнай партыяй».

Украінская Нацыянальная Асамблея - палітычная партыя ультра-правага кірунку з анархісцім ухілам. Па колькасьці яна займае на Украіне пятае месца пасьля Камуністычнай партыі, Сацыялістычнай партыі, Народнага Руху Украіны і Украінскай Рэспубліканскай партыі.

* * *

Міністэрства юстыцыі Украіны адмовіла ў рэгістрацыі Украінскай нацыянальнай Самаабароне. Як паведамілі прадстаўнікі Мінюсту, прычына адмовы ў рэгістрацыі - неадпаведнасьць асобных палажэньняў Статута гэтай арганізацыі украінскаму заканадаўству. У прыватнасьці, некаторыя палажэньні Статута УНСА прадугледжваюць аператыўна-пашуковую работу і сумеснае патруляваньне з органамі аховы правапарадку.

* * *

«Калі Патрыярха Уладзіміра не пахаваюць у саборы Сьвятой Сафіі, ён застанецца ляжаць на ранейшым месцы», - заявіў на прэс-канферэнцыі Месцаблюсьціцель Патрыяршага прэстола Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага Патрыярхату (УПЦ КП) Мітрапаліт Кіеўскі Філарэт. «Адмова дзяржавы перазахаваць Патрыярха Уладзіміра ў саборы Сьвятой Сафіі сьведчыць пра тое, што ўлады ставяцца да УПЦ КП як да часовай царквы», - падкрэсьліў ён.

У адказ на распаўсюджаны зварот сьвятароў УПЦ КП заходніх рэгіёнаў, у якім яны заклікалі Філарэта адмовіцца ад вылучэньня сваёй кандыдатуры на Патрыяршы прэстол, Месцаблюсьціцель сказаў, што «адмовіцца толькі ў тым выпадку, калі праваслаўе на Украіне стане адзіным».

## РАСЕЯ

**УФА**

Хлеб - соль і кумыс паднесьлі прыбыўшаму ва Уфу лідару Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расеі У.Жырыноўскаму, сустрэўшыя яго ў аэрапорце члены мясцовай арганізацыі ЛДПР і прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта Башкірыі. Лідар расейскіх ліберал-дэмакратаў прыбыў у горад на самалёце ЯК-40 з надпісам «Орёл» і профілям беркута на борце.

**«Э.-Х»**

